Пераклад Васіля Раманава 2013 г.

Мітрафан Доўнар-Запольскі

# Вясельныя песьні Пінчукоў[1]

Піншчына і яе жыхары Пінчукі даўно цікавяць навуку і адукаванае грамадства. Гэта край вялічэзных балот, першабытных лясоў, аб якім у грамадстве хадзіла шмат чыста фантастычных апавяданняў. Ён, на самай справе, застаецца да гэтых пор мала вывучаным. Этнаграфічныя дасьледванні, вывучэнне яго насельнікаў, яго звычаяў і норава, мовы, эканамічнага стану – усё гэта амаль не закранута навукай. Адны апісанні састарэлі і няпоўныя, другія – у выглядзе асобных заўваг раскіданыя па мясцовых перыядычных выданнях за мінулыя гады, не дасягальныя для публікі.

У змешчаным ніжэй нарысе я вырашыў пазнаёміць зацікаўленых чытачоў з маленькай часцінкай із побыту насельнікаў гэтага краю. Адна із цікавых асаблівасьцей Пінчукоў – гэта іх песьні. Іх лірыка адрозніваецца высокімі паэтычнымі якасьцямі, абдымаючы самыя разнастайныя бакі народнага жыцця. Я выбраў вясельныя песьні.

Разбіраючы паэтычныя матывы гэтых песен, можна вылучыць цэльныя паэтычныя вобразы галоўных удзельніаў звычаю: маладога і маладой, іх адносіны паміж сабой, да сваёй сям'і і чужой і інш. Побач з матывамі, якія маюць цікавасць толькі з боку вывучэння народнай лірыкі, мы сустракаем і матывы із аддаленага рэлігійна-пабытовага мінулага. Прысутнасць апошніх зразумела, таму што вясельны звычаі і песьні ствараліся стагоддзямі і цэлыя стагоддзі захоўваюцца народам. Пагэтаму зразумла, што ў народных песьнях аб вяселлі мы сустракаем і такія матывы, якія малююць нам шлюбныя адносіны ў болей першабытную эпоху. Высвятленне ўсіх гэтых матываў і складае прадмет прапануемага нарыса.

Матэрыялам для яго паслужылі песьні, запісаныя асабіста аўтарам на Піншчыне[2]. Акрамя таго я скарыстаўся і зборнікамі маіх папярэднікаў[3].

## I.
## Маладая.

1. Надрукавана ў 1893 годзе.
2. Кніга выйшла ў 1895 годзе пад назвай “Песьні Пінчукоў”, Кіеў.
3. Гэтыя зборнікі: Булгкаўскі “Пінчукі” С.П.Б. 1892г.; Zieńkiewicz, Piosnki gminne Ludu Pińskiego, Kovno, 1851; арт. Бачкоўскага ў IX т. Zbiòra viadomosci do anthropol. Kr. – Кракаўскай Акадэміі Навук; арт. Кольберга ў XIII т. таго ж зборніка.

У вясельных песьнях Пінчукоў адлюстраваліся матывы і аддаленага культурна-рэлігійнага мінулага, і, побач з імі, мы сустракаем замалёўкі сучаснага паўсядзённага жыцця.

Цэнтральнымі асобамі, да якіх тым ці іншым чынам, маюць дачыненне большая частка песен, - гэта, бязспрэчна, малады і маладая, іхныя адносіны адзін да аднаго, да сваёй і чужой сям'і, іх будучае шчасце і інш.

З асаблівай сімпатыяй і ціхім сумам песьні гавораць аб маладой. Збіраючыся пад вянец "дзеванька расу брала" з зялёнай руты; гэтай расою яна мыла твар. Па другой песьні, яна збірае расу з яблыні. Яе русая каса ("роса кэса") – да поясу "сукенка да мураўкі", на ёй "руцяны вяночак, шаўковы касыночак". Сама яна "чырвона-белая". У агульным, адна песьня так малюе знешні выгляд маладой:

Тонкая бы быліна, чырвоная бы каліна,
Высокая бы тополіна.

Іншая песьня гаворыць, што маладая:

Наражена, як панятко
Посажена, як князятко.

"Не сварыся, матка",- гаворыцца маладой ў іншай песьні, што спазнілася: у новым касцёле доўга "барылася": "стаяла гадзіну пакуль звянчалі, стаяла другую – людзі не пазналі":

Чі то мяшчанка, чі то боярка?
На ёй сіва сьвіта з окладом шыта,
Пэрсцень кованы і друг коханы[4].

Адна песьня робіць вельмі паэтычнае параўнанне маладой з пчалой, хмарай, дожджыкам і інш. Мы пакажам гэты цікавы ўрывак, у якім народная паэзія сабрала ўсе любімыя рэчавыя выразы, каб паказаць сімпатыю да яе:

Да сіяла нэвеста як чорон мак,
Не ўдаваласа свюкру ў знак:
Ой лісом шла пчолою,
Пыд сэло подошла хмарою,
А ў сэло ўзышла дожджычком,
На двыры сплыла рычкою,
А ў сіні ўпала шчукою,
А ў хату ўлізла павою,
За столом села панею;

4. Zieńkiewicz, p, 66.

Іе свікратко нэ познаў,
Ды іі панею назваў.

Подобныя параўнанні мы сустракаем і ў іншых песьнях. Учора рэчка была стромкаю, гаворыцца ў адной з іх, сёння прыціхла, таму што на яе панаплывалі "чоўначкі", панавіслі лозы:

Ты быстрая рыченька!
Ты ўчора была быстрэнька,
А тэпэра стоіш тыхенька,
"Як же мні быстрэнькой буты?
Шчо на мэнэ човночкі наплывлі,
Шчо на мэнэ лозонькі навіслі!"

Так і маладая Ганначка: учора яна была вясёлая, сёння "смутнннька" сядзіць. У чым жа падстава, пытаецца песьня?

"Як же мні вэселенькой буты?
Шчо осела мэнэ чужая сторона,
Все Януськова родына"[5].

Наогул, у песьнях жанчына ахвотна параўноўваецца з атмасфернай вадой. Па адной – "бегла сонца проці хмары" і пытае ў яе дазволу схавацца: так маладая бяжыць да маці і просіць схаваць яе ад маладога.

Народная паэзія аддае маладой самыя пяшчотныя параўнанні. У адной песьні яна параўноўваецца з "кункай" (куніца): "ды ехалі ж мы тым следам, куды наша кунка бегла". Кунка бегла, "расіцу патрусіла" і запрасіла ўсіх гасьцей на "адзін вечарок, на салодкі мядок". Але асабліва часта яна называецца "зазулькай" (зязюля). Яна трапіла на двор свёкра, як лясная зязюля ў сад, адкуль – "сюды гляне, туды гляне – некуды вылятаць": з аднаго боку вішнёвы сад, з іншага вінаград.

Другая песьня пытае:

Дэж наша зузулечка,
Чы ў орла пыд крылечком,
Чы ў місіца ў покоі,
Чы ў батэнькі ў коморы?

Яе збіраюцца здабыць чаго б гэта ні каштавала: з пад крыла арла яе "выстраляць", із пакоя месяца выкацяць, а ў бацюшкі выпрасяць. Далей сустракаем параўнане маладой з "саколкай", "галубкай" і інш. (Zieńkiewicz, 104, 96).

5. Zieńkiewicz, 110-112.

Вялікай пяшчотай дыхаюць параўнанні маладой з сумнай калінай, якая адзінока стоіць на лузе, ці з ружай, якая упрыгожвае сабой сад. Я прывяду адну песьню цалкам, якая адносіцца да гэтай тэмы.

Ой, шарка, шарка[6] да каліна ў лузі
Шарчей калыны да дзевонька ў бацькі!
По двору ходыла, весь двор скрасыла,
За столом села, як рожа спела;
Коло ее дзевочкі, як васілечкі,
Коло ее молыдкі, як лебедкі.

Лёс дзяўчыны параўноўваецца з лёсам ружы, якая стаіць "каля сенажаці": ружы там не вымакаць, а дзяўчыне не векаваць у бацюхны. Дачка у маці: "гожа, як чырвона ружа" (Bykovski, 20).

У другой песьні маладая параўноўваецца з калінай, якая стаіць каля маста. Праз мост едзе дружына на чале з маладым; ён вынімае сваю "шабельку" і збіраецца секчы каліну, але яна стала прасіць яго: "не сячы мяне, не рубай, жанішок, бо мяне каліну крэль садзіў", дождж паліваў, "а цябе дзеванька Бог гадаваў". Маладая дзеванька, "засмуціла" ўсю сям'ю, падобна таму, як каліна ўвесь луг "закрасіла":

Ой, у лузі калына,
Ввесь луг закрасыла,
Наша дзевонька да молодэнька
Увесь рыд засмутыла (Bykovski, 20)

Каліна ў народных песьнях, якія маюць дачыненне да маладой, служыць не толькі простым паэтычным параўнаннем, але мае сувязь і з народнымі уяўленнямі, якія зарадзіліся ў першабытным грамадстве; згодна з гэтымі ўяўленнямі прырода, наогул, гэта ўладальніца вышэйшай радзючай магутнасьці; расліннасць жа, будучы сама следствам радзючай сілы прыроды, у народным уяўленні, з'яўляецца адначасова носьбітам гэтай магутнасьці. Так як у некоры перыяд развіцця чалавечага грамадства, які можна назваць агульным найменнем радавы ці патрыярхальны, галоўнай мэтай сумеснага жыцця прадстаўнікоў абодзвух стацей чалавецтва было нараджэнне нашчадкаў, якія маглі б прадоўжыць служэнне хатняму вогнішчу, культуру продкаў і г. д., то чалавек, натуральна, звяртаўся да ўсіх тых прыродных магутнасьцей, увасобленых ім у постаці асобных багоў, ад якіх, на яго думку, залежала радзючая здольнасць нанова ствараемай праз адружанне сям'і. Пры гэтым не забудземся, што ва ўсіх вядомых да гэтага часу язычаскіх вясельных звычаях, нараўне з маленнямі да таго ці іншага Бога, аб дараванні новаадружаным нашчадкаў, мы сустракаем такія ж маленні і аб дараванні радзючасьці быдлу і

6. Шаркая – прыгожая. Ад слова шарыцца – красавацца.

памнажэнні іншых багаццяў, што залежыць ад тых жа багоў. Вось чаму і расліннасць, увасобленая у больш развітых рэлігіях (Як Сома ў індусаў, Гаома ў іранцаў, Фрэя ў германцаў, верагодна Лада ў славян і інш.) і не ўвасобленая ў больш прымітыўных, так цесна звязаная з вясельнымі звычаямі і песьнямі ўсіх народаў. Сюды адносяцца, напрыклад, выкарыстанне вянкоў на вяселлях, упрыгожванне галінкамі хат, выстаўленне дрэва пад вокнамі, ці на страсе хаты, дзе спяць новаадружаныя, нарэшце, выкарыстанне саломы і хлеба. Людзі упрыгожваюць сябе кветкамі і лістамі, ставяць у двары дрэвы, куты ў памяшканнях утыкаюць зялёнымі галінкамі, падлогу высцілаюць саломай, маладых кладуць спаць на саломе, сажаюць іх на хлебную дзежку, абсыпаюць хлебным зернем і інш., - усё гэта для таго, каб сімвалічна прыцягнуць радзючую сілу прыроды, заключаную ў расліннасьці, на новаадружаную пару і заснаваную ёю гаспадарку.

Але, як вядома, усе гэтыя звычаі дасягаюць свайго эпагею, калі маладых вядуць у клець і калі іх будзяць. У шмат якіх месцах Беларусі усе гэтыя звычаі вядомы пад агульнай назвай “калінка”, “чырвоная”, “чырвоная гарэлка” і г. д. Да гэтых звычаяў прымяркаваны цэлы шэраг песень, у якіх так ці інакш упамінаецца “чырвоная калінка”. Зараз няма магчымасьці паглыбляцца ў разгляданне гэтых звычаяў і песен: сувязь са звычаямі каліны, яе эпітэт “чырвоная”, яе параўнанне з маладой, дастаткова кажуць самі за сябе. Для падцверджання сказанага, я абмяжуюсь толькі прывядзеннем урыўку із адной песьні, запісанай у Ігуменскім уездзе. Маці маладой: “у лузі здабыла, у калюжцы (лужына) купала, пад бярозаю спаць клала, пад калінкаю спавівала”. Маладая нагою калінку “укранула”

Тая калінка капнула
Да на мой шіцянькі рукавец,
А на мой сьлічняныкі падалец.

Пасля сказанага зразумелы і ўдзел каліны ў вясельных пінскіх песнях і частае параўнанне маладой з калінай. Па адной з іх, Ганначка “зажадала” калінавы вянок, просіць бацьку паехаць у даліну па каліну, але бацька прыехаў – каліна не цьвіце. Яна просіць маці, брата – вынік той жа. Тады дзяўчына звяртаецца да свайго каханага. Януська прыязджае і “калінка зацвітае”:

Час і пора і гадзынонька
Зацвіла калінонька (Zieńkiewicz, 100)

У іншых песьнях дзяўчаты ўпрыгожваюць грывы коней, якія павінны везьці вясельны караван, калінаю, хата бацькоў маладога, куды збіраюцца везьці маладую – “калінкаю абтыкана”, маладая праводзіць свайго бацьку да калінавага масту і г. д.

Да апісанай характарыстыкі маладой застаецца дадаць, што песьні хваляць яе за тое, што яна “тонка прала, звонка ткала, беленька бяліла” рушнікі і

настольніцы, якія раздаваліся дружыне маладога ў падарунак. Не аднойчы песьні адзначаюць і тое, што маладая "хоць яна па ночы хадзіла", але ўсётакі "пры сабе красу насіла" –

Да носыла красу до часу,
Дэржала праўдоньку ў сэрдэньку,

г. зн. захавала нявіннасць.

Але не ўсё бачыцца маладой і яе блізкім у прывабным свеце. Маладая прыгожая, прыбраная "як панятко, князятко", але памылкова было б думаць, што яна радуецца таму, што адбываецца вакол яе. Маладая сумная і ў слязах. Падстава яе сумавання – невядомая будучыня. Яе хваляванне даходзіць да таго, што прыехаўшы ад вянца яна не можа "прамовіць слаўца": "слёзкі ды набягаюць, слаўца не згадаюць". Яе лёгка пазнаць пасярод сярод светлых твараў гасьцей і родных, таму што ў яе "па плячах коска, а па твару слёзка; у ручках хусьцінка – без ветру мае, без ветру мае, без сонца ззяе".

"Па плечах коска, па твары слёзка, то яна" – гаворыць другая песьня.

У горы, чакаючы невядомай будучыні, маладая ўспамінае ўспамінае аб сваёй долі і заве яе: "Ох, і доля ж ты, долечка!" – звяртаецца да яе маладая. Калі доля добрая – няхай ідзе з ёю да "шлюбу", калі злая ці діхая, няхай плыве да мора з вадою. Доля сустракае яе на вазу пры ад'ездзе да царквы, ідзе папярод яе, але ўсётакі яна невядомая, сумнеўная: дзяўчына хутчэй чакае горшага.

Ненадзейнасць будучыні застаўляе дзяўчыну берагчы сучаснасць. Яна баіцца згубіць галоўныя атрыбуты свайго дзявоцтва: дзявочую касу, "усяму роду прыкрасу" і вянок.

Коса – гонар дзяўчыны. Песьні асабліва апавяваюць русую касу, дасягаючую пояса. "Дзержы, дзеванька, сваіх кос" папярэджвае яе песьня. Са стратай касы жанчына перастае быць дзяўчынай, становіцца "маладзіцай", над ёй уздымецца цяжкая ўлада чалавека. Ходзіць дзяўчына па двары, "зораючы під зору" і кжа маці:

Знаты мацінька, дождж будэ,
На мою кэску мга падэ,
Тобе баценько жаль будзе.

Каса – прыгажосць дзяўчыны. За ёю ганяюцца хлопцы, ламаюць бацькоўскія вароты, а таму песьня прыспешвае бацькоў хутчэй прапіць дачку – "няхай яна ў косах не ходзіць, ды няхай хлопцаў не зводзіць". Песьні папярэджваюць дзяўчыну, каб яна не давала часаць сваіх кос: "маладая дзеванька не давай коскі рваці". Другая песьня раіць ёй выбегчы на "вулачку":

Кідайся, мэтайся, завіватыся не давайся.

Але бацькі без жалю прапілі яе касу, брат прадаў за канчук. У роспачы маладая гаворыць:

Распусцю косу по кованому паясу,
Да нехай моя русая коса шарыцца,
Да нехай моя родная маты жаліцца.

Другая песьня гаворыць, што “уплёты” (стужкі, якімі пераплятаюць касу) трэба аддаць маці: няхай яна, прытуліўшы іх да сэрца, горка заплача, успомніўшы сваю дачку. Маці прапівае, аддае сваю дачку, але хутка раскаецца і “уплёты” ёй будуць навяваць горкія ўспаміны.

Плач дзяўчыны аб касе носіць глыбока паэтычны характар. Яна аплаквае яе, убіваецца, таму што каса – дзявочая краса.

Да поплакала дзівонька по косе,
Не так же она по косе,
Як по своей матерыной роскошы! (Булгакаўскі, 101, № 16)

Яна распусціла сваю касу “па белых плечах”

Ой, не жаль же мне русой косы,
Шчо я еі распустыла,
Як жаль же мні свого баценька
Шчо я его разгневала (Булгакаўскі, 101, № 15)

Дзяўчына думае, што яна нечым прагнявіла свайго бацьку і ён аддае яе замуж, прымушае расплесьці касу.

Дзяўчына плача аб касе болей, чым аб разлучэнні з маці, бацькам. Яе каса – гэта белы жэмчуг, як паэтычна кажа песьня (Булгакаўскі, 101, № 14). Выйшла дзевачка і стала пад чырвонай калінай, “ручкі згарнула, цяжка вастхнула, сільненька заплпкала”. Маці яе пытае: “Чаму плачаш?” Бацька пытае: “Ці шкода мяне старога і роднага падвор’я?”

Я не жалую цебе старого,
Ні подворья твого,
Як жалую русое косы,
Дзевоцкое красы.
Гдзе дзевочкі граюць, коскамі маюць,
Там мене не пріймаюць;
А гдзе молодочкі суму сумуюць,
Там мене потребуюць. (Zieńkiewicz, 54-56)

З касою цесна звязаны другі атрыбут дзявоцтва – вянок. Песьня запрашае дзяўчат ісьці ў сад вязаць на вянок руту ў пучкі. Па версіі другой песьні вянок куплены на базары і схаваны “ў скрынку”. Зняць вянок, азначае тое ж самае, што і распусьціць касу, г. зн. перайсьці з дзявоцтва ў замужні стан. Дзяўчына хацела яшчэ пабыць у бацькі – “у баценькі пабыці, хараша хадзіці”. Але малады ёй не

даў: ён “зняў вянок, налажыў намётачак, зняў намётачак, зняў зялёненькі, налажыў беленькі”. Вянок быў толькі адзін, але і таго не давялося знасіць дзяўчыне:

> Одного была звіла,
> Дай того не зносіла
> Януську зложіла (Zieńkiewicz, 114).

Песні пра касу і вянок маюць значэнне не толькі як выдатныя ўзоры народнай лірыкі. Сапастаўляючы іх з вясельнымі звычаямі беларусаў і іншых народаў, мы знаходзім у іх адгалоскі рэлігійна-пабытовых матываў. У цяперашні час у народнай свядомасьці, бязспрэчна, захавалася першапачатковая сувязьсумных матываў песень пра дзявочую касу з іншымі звычаямі; гэту сувязь можна пабачыць толькі з дапамогай параўнанняў.

Вядомы цэлы шэраг звычаяў у побыце як еўрапейскіх так і іншых народаў, якія паказваюць, што з абразаннем валос чалавек губляе незалежнасць, із вольнага стану пераходзіць у падняволены. Так, абрэзаныя валасы па старажытна-германскіх і французскіх звычаях былі прыкметай падняволенага стану; наадварот, доўгія валасы – адметны прызнак вольных людзей (Revue des trad. Populaires, t. 3, p, 403-405). Спенсар сабраў цэлы шэраг прыкладаў із побыту аўстралійскіх абарыгенаў, паказваючых, што доўгія валасы могуць насіць толькі вольныя людзі; рабы і жанчыны носяць валасы каротка пастрыжанымі (Звычаёвыя ўстановы, 94-98).

Мы бачылі, што ў песьнях дзяўчына скардзіцца на згубленне касы, якую бацька, ці брат прадаюць маладому. Вядома, у цяперашні час жанчыны не абразаюць сваіх валос, але ў вясельным рытуале захаваўся адзін звычай, які сімвалізуе адразанне дзявочай касы пры пераходзе яе да чалавека. Пад час звычаю, які называецца пасад маладой, брат апошняй ці дружка састрыгае часцінку валос, ці прыпальвае іх. З гэтага моманту маладая перастае насіць распушчаныя па-дзявочаму валасы, станавіцца маладзіцай і на яе надзяваюць убор адружанай жанчыны, які, як вядома, старанна хавае валасы. Гэты звычай паказвае на тое, што першапачаткова існаваў закон, патрабуючы пастрыжэння валос дзяўчыны, пры яе адружанні. Мяркуючы па аналагічных дадзеных, паздаўленне валос жанчыны было звязана з яе пераходам у паднявольны стан, пад уладу чалавека.

Гэты звычай мае цесную сувязь са звычаямі іншых народаў. Так, сляды падразання валос маладой, як акт шлюбнай цырымоніі, мы сустракаем у старажытных індусаў, грэкаў, эстаў, у некаторых славян і інш.; у рымлян валасы маладой распляталі асобнай дзідай; гэты звычай захаваўся амаль паўсюдна ў сучаснай Італіі. Калі з цягам часу жанчыну і перасталі пазбаўляць яе натуральнай прыгажосці і пачалі задавальняцца толькі сімвалічным актам, прыстрыгаючы ці падсмальваючы валасы, то звычай усёжтакі забараняў адружанай жанчыне насіць распушчаныя валасы. На самай справе, наўрад ці існуе такі народ, дзе б звычай дазваляў адружанай жанчыне насіць непакрытыя валасы, ці, на рэўце,

такую ж прычоску, якую носяць дзяўчаты. Вядома, што ў рускага народу жанчыны заўсёды пакрываюць сваю галаву хусткамі, распушчаныя валасы носяць толькі дзяўчыны. Гэты звычай адносіцца і да ўсіх славян, старажытных індусаў, грэкаў, рымлян, немцаў, італьянцаў, фінскіх плямён і інш. Заўважым, што і ў асяродзі грамадства, якое цураецца народных звычаяў, адружанныя жанчыны носяць носяць трохі іншую прычоску, чым дзяўчыны.

Пасьля гэтых заўваг звернемся да пытання, нас цікавячага. Такім чынам, зразумела, што ў песьнях аб касе, якую дзяўчына можа насіць распушчанай і якую яна павінна будзе прыкрыць пасьля адружання – у гэтых песьнях маладая аплаквае згубленне свайго дзявоцтва, згубленне вольнасьці; ёй прыйдзецца падпарадкоўвацца чалавеку, перайсці ў чужую сям'ю, нацярпецца гора. Пакуль яна насіла касу і вянок – яна была вольнай, незалежнай, не ведала "жаноцкага" гора.  Але прыходзіць дзень шлюбных звычаяў, звычай абавязвае схаваць сваю касу пад хустку – адзнаку вольнага дзявоцтва – і маладая натуральна абліваецца горкімі слязамі. Яе адчай выказваецца ў шматлікіх кароценькіх, але вельмі паэтычных песьнях.

Мы разгледзелі адну частку песень, якія адносяцца да маладой і малююць яе выгляд у незалежнасьці ад вакольных людзей. Ціхі сум ляжыць на ўсім абліччы маладой, але гэты сум пераходзіць у мора адчаю, калі маладая пачынаецца развітвацца са сваімі роднымі. Мы хутка пяройдзем да разгляду і такіх песень, а цяпер разгледзім песьні, якія адносяцца да другога ўдзельніка вясельнага свята – маладога.

## II.
## Малады і яго дружына. Выкраданне дзяўчыны.

У той час як песьні, адносячыяся да маладой, шмат выдзяляюць увагі стану яе душы і знешнім выглядам, то песьні аб маладым, наадварот, больш спыняюцца на тэме дзянняў, якія ён здзяйсняе разам са сваёй дружынай. Дарэчы, мы сустракаем і апісанні знешняга выгляду маладога. Цешча лёгка можа пазнаць свайго новага зяця, таму што –

Наш зяць чорнабровый,
Пуд ім конік сывый,
І на ручках соколыкі,
А на ём шапка красна,
Як зырочка ясна.

У песнях малады малюецца бравым малайцом, кіраўніком баявой дружыны. Песьні параўноўваюць яго з сокалам, з собалем, з салаўём і, нарэшце, з голубам. Дзеванька едзе пад вянец з "панічом", яе вянчаюць з "каралём". Яго можна пазнаць па тым, што ад яго "мёдам пахне, а віном дыша".

Малады сядзіць на кані і ўважліва глядзіць на сваю мілую, як сокал на саколку:

Чем же то за соколік
На варуцечках седзіць?
На саколку пільно глядзіць
З под правого крільца,
З под золотого пэрца (памяншальнае ад пяро)

Гэта не сокал глядзіць на саколку, а малады Януська сядзіць на кані і пільна глядзіць на сваю Ганначку:

З под правае ручкі,
З под білого кожушка (Zieńkiewicz, 104)

З вялікімі падрабязнасьцямі песьня спыняецца на тым, як малады збіраецца здабыць сабе маладую, як ён яе здабывае і інш. Тут мы сустракаемся з перажыткамі выкрадання жанчын. Усе народы, наколькі іх гісторыя і сучасны побыт выведаны навукай, перажывалі, а некаторыя із менш развітых, перажываюць і зараз, такі момант, калі жанчына магла стаць жонкай чалавека ніяк інакш, як толькі будучы выкрадзенай ім. Пры больш першабытным стане, жанчын выкрадалі адзін у аднаго варагуючыя плямёны, звярчаючы выкрадзеных у сваіх жонак-вязніц. Звычай браць жонку із іншага племені, роду (так званая экзагамія) укараняецца, робіцца святым звычаем. Плямёны, жыўшыя мірна паміж сабой, куплялі адзін у аднаго жанчын, а варагуючыя – здабывалі сілай. Звычай выкрадання так замацаваўся, што ў паследуючыя часы быў абстаўлены рэлігійнымі цырымоніямі (гэта відаць із вясельных звычаяў), зрабіўся, такім чынам, рэлігійным патрабаваннем і прадаўжаў практыкавацца нават тады, калі адружанне пачало адбывацца на аснове згоды бакоў. Звычай выкрадання настолькі моцны, што ў песьнях і вясельных звычаях народаў, ужо даўно забыўшыхся аб рэальным выкраданні жанчын, як, напрыклад, у немцаў, французаў, англічан, італьянцаў і інш. – усётакі да гэтых пор сустракаюцца перажыткі, незразумелыя для саміх выканаўцаў звычаяў. Славяне таксама перажылі час, калі хлопец павінен быў выкрасьці сабе жонку. Пра гэта цалкам вызначана сведчыць вядомае месца із летапісу Нестара і інш. крыніцы, а у ўсходніх вялікаросаў і сербаў да гэтых пор сустракаюцца выпадкі выкрадання (так званыя “самакруткі”) дзевак. У вясельных песьнях і звычаях славян успаміны аб гэтым звычаі вельмі жывыя.

У пінскіх песьнях адлюстраванне пазначанага звычаю выразілася вельмі яркімі, жывымі фарбамі. Вельмі цікавая тая асаблівасць, што па песьнях мы можам прасачыць усе асобныя моманты выкрадання дзяўчыны; перад нашымі вачамі праходзіць поўная карціна больш старажытных пабытовых адносін. Песьні спяваюць аб малайцы і яго дружыне, здабываюшчых дзяўчыну, спяваюць аб тым, якім чынам яе здабываюць, як “ваююць” з цесьцем, як вязуць маладую

паланянку; у той жа час песьні не забываюцца і аб суб’ектыўным стане дзейнічаюх асоб, асабліва маладой, гора якой – любімая тэма народнай паэзіі.

Рыхтуючы сына да цяжкай справы, маці “аперазала яго месяцам, зоркаю зашпіліла, доляю опянула”. Малады не сам едзе ў дарогу: ён збірае ўвесь свой род, усю сваю “радныну”; ён прыпадае “да ножак” свайму бацэньку –

Мый бацюхно родный, збырай маю роднынонькy,
Блізкую і далэкую, богатую і ўбогую:
Богатую да попытыса, а бідную порадытыса,
Богатая на славоньку, а бідная на порадоньку.

Род маладога складае дружыну, з якой ён і едзе здабываць маладую. Пчаліны рой хоча паляцець на салодкія мяды, на жоўтыя кветкі. Але гэта не рой, гэта малады і яго раднына. Яна хоча паехаць, перад цесьцем “стаці”, “цесьця зваяваці, сабе дзеўку ўзяці”. У некалькіх песьнях малады параўноўваецца з месяцам; расхадзіўся ясны месяц па небу, “збіраючы свае зырначкі ў грамаду":

Да засветымо ўсе разом.

Так і малады збірае сваю раднынy:

Ды паедэмо усе разом на войну,
Да звоюема мойго тэстэнка, што ў дому,
Да возьмэмо младу дзевоньку с собою.

У другім варыянце песьня заканчваецца больш падрабязным апісаннем “вайны”:

Станэмо са своім полком пуд ганком,
Да выбьемо крамэну[7] сцену крамэньком,
Озьмэмо молоду дзевоньку із венком.

Упамінанне аб родзе сустракаецца і ў іншых песьнях, звязаных з гэтым жа пытаннем. У адной песьні, якая адлюстроўвае ўжо больш мірныя адносіны сям’і маладога і маладой, малады просіць свайго бацьку аббегчы сваю “раднынy”, збіраць “музыкі резаці[8]”, выбраць “друшчатку-скакунца” (дружку, які добра скача), каб дружына, дзе стала – зайграла, дзе села – заспявала.

Бо там чужая сторона
Шчоб не було сорома.

---

7. Каменную, крэменная ад слова крамень.
8. Ад слова рэзаць: рэзаны музыка – добра “рэжучы” іграючы на скрыпцы.

Род таксама прысутнічае пры прапіванні дзявіцы, г. зн. пры яе куплі-продажу. Адзначым яшчэ цікавы выраз “рыд спяваці”, г. зн. спяваць радавую песьню.

Сабраўшы дружыну, малады збірае і ўсё патрэбнае для выправы. Ён, упаўшы да ног бацюхны, просіць, каб той падрыхтаваў дзевяць каней, а дзесятую жарабіцу “пад маю маладзіцу”. У яго выбраныя коні, прыгодныя для асілкаў, яны стаяць “каля залатога плоту”, вады не п’юць, белкамі б’юць, дарогу чуюць. Малады корміць іх сам перад дарогай, косіць сена і да “стаінкі” носіць. Ежце мае коні, гаворыць ён ім, таму што пойдзем на вайну, -

Будэм тэсьця вояваты,
Собі дзевоньку браты.

Коней кормяць пшанікаю із новых карыт. Іх чакае “велыка дорога”; на гэтай дарозе трое “вароцец”: у адны вароты – сонейка грае, у другія “месячык” свеціць, у трэццiя – малады едзе. Картэж такі прыгожы, што месца па якім ён праязджае “дзівуе”: чый гэта сын едзе?

А тому найлепші, кому зяцем будэ.

Сонца і месяц спадарожнічаюць маладому. Яму даводзіцца прайсьці цяжкі шлях: маладая папярэджвае яго, каб ён падкаваў коніка “на штыры нагі”. Ехаць прыйдзецца “борам-карэннем”, “полем-краменнем”:

Быр будэ шумэты, кремень звінэты,
Чужім же людэм за дзіво будэ.

Для большага посьпеху на справу выпраўляюцца ноччу. Малады пасылае наперад салаўя, апавясціць аб сабе цесьця:

Едэ зяць вояваты
Собі дзевоньку браты.

На самай справе, не з добрымі думкамі едзе малады са сваёю дружынай да свайго будучага цесьця. Сось так гаворыць аб гэтым песьня, якую я даю цалкам, з нагоды яе вялікай цікавасьці:

Жаль бацюхна, жаль, жаль,
А матэры ешче жальчей,
Шчо бэрэ дочку жоўнер
Замэтай матка попэл,
Бо мы твою дочку ўхопэм,
Озьмэмо да рученькамы,
Повэзэмо да коніченькамы,

Ухопымо да белэнькімі,
Повэзэмо да воронэнькімы,
Озьмэм да повэзэмо
Да положымо спаты,
Што схочемо, то зробымо
Да вашому дыцяці, -
З крышок паляныца,
А з дзеўчыны - молодыца

Відавочна, што з маладой збіраюцца расправіцца як з паланянкай. Прыехаўшы на двор цесьця, дружына на чале з маладым паводзяць сябе, як самыя лютыя непрыяцелі. Малады выехаў на “залізны мост, на залізны мост, ды капытцы знёс”. Жалезныя масты дружына ламае, “тонкія абрусы” разрывае:

Залізные мосты ковалі ковалы,
Тонкіе обрусы ткачі ткалы,
Белыя лебедзі на моры белілы.

Не дзіўна, што такіх лютых ворагаў баіцца ўвесь род маладой. Баіцца і яна сама, вінаватая ў нападзе, баіцца, можа быць, больш чым іншыя.

Род маладой прадбачыць напад дружыны маладога. Ён жадае раней даведацца аб набліжэнні ворага, каб прыгатавацца да сустрэчы. Песьня звяртаецца да маладой:

Молодая Ганночка!
Выйдзі за вороцячка!
Выйдзі к дорожэньцы:
Ці стогне доружэнька,
Ці шуміць дубравушка,
Ці не едуць сваты твоі,
Ці не везуць розкуй-косы,
Ці не везуць разлы-слезы? (Zieńkiewicz, 96-98)

Дружына маладога набліжаецца шумна, на конях, едуць адкрыта дарогаю: тупат капытоў коней чуваць здалёк і да яго з жахам прыслухоўваецца дзяўчына. Яны вязуць ёй не добрае: разаўюць (раскуюць – раскуй-касу) яе касу, разальюць слёзы. Але вось малады набліжаецца. Выбегла два кані, Ганначка пачула тупат з каморы: “па каго конікі бяжыце?”

Да по цебе Ганночка, по цебе,
По твое білэе ліченько,
По твою касуньку русую,
По твою слязуньку друбную,
По твое кубельце цёсовэ,

Па твое подушкі пуховэ. (Zieńkiewicz, 92)

Вось за чым бягуць коні. Маладая хоча схавацца. Аб гэтым гаворыцца ў адной песьні з міфалагічным адценнем. Сонца бяжыць “проці хмары” і просіць яго “захаваць”, так і маладая бяжыць “проці матанькі” і з адчаем просіць “захаваць” яе:

Нэ заховаю мые дытьятко,
Сваты наіхалы, ўчоб цебэ ўзяты.

Дзяўчына добра ведае, што малады, які едзе, яе “не жалуе”, і гатовая лепш утапіцца. Яна баіцца “таго жаўнера”, што сядзіць “край яе” і закрываецца ад яго.

Але ўсётакі дружына з маладым выпілі бочку “мядочку” і “выяздзілі, выкруцілі ад маці дочку”. Зараз яе збіраюцца везці да сябе і зрабіць з ёю, - “што схочэмо”, зрабіць маладзіцай. Малады не даў маладой добра пажыць у бацюхны, ён зняў вяночак, паклаў намётачку. Але, ужо звезеная з роднай хаты, ужо ў “даліне”, яна “яшчэ выглядае родыну”, відавочна спадзяючыся на дапамогу. Але радня не гоніцца, каб адбіць дзяўчыну. Яна думае, што маці баіцца ворагаў:

Да чаго матэнько боісса?
Чі знэваженькі боісса?
Не бойса матенько, не бойса,
У чырвоны черевыкы обуйса,
Топчі ворогі під ногі,
А подкіўкамі порогі.

Адна песьня, запісаная Зянькевічам, нагадваючы сабою вядомае месца із “Слова аб палку Ігаравым”, параўноўвае сватоў з сізымі галубамі, косы дзяўчыны – белы жэмчуг, яе слёзы – жывое золата. Гэта песьня ўтрымлівае шмат высока паэтычных элементаў:

З суботонькі на недзіленку
Снівса мне сон дзіўнонькі:
Сівы голубы да наленулі,
Білы жэмчур розвернулі,
Жівэ золото розсыпалі.
- Да мое дзіцятко роднэ!
Мало умны розум маешь,
Шчо сёго сну не сгадаешь:
Сівы голубы – сваты твое;
Білы жэмчуг – коскі твое;
Жывэ золото – слёзкі твое (Zieńkiewicz, 58)

Здабыўшы дзяўчыну, моладзец прыводзіць яе да маці і пытаецца ў апошняй:

Чі рада ты, мая матонько,
Што я з вайны з'ездзыў,
Звояваў да дзевок-паннок,
Выбраў себе пану – молоду дзевоньку?

Цяжка было здабыць дружыне дзяўчыну. Пагэтаму сват, прыехаўшы з "вайны", загадвае дзеўкам (жанчынам свайго роду):

Да нэ отчіняйтэ двэрыны,
Да нэ выпускайтэ зверыны,
Я своего коніка ўгоніў,
Покуль зверыну половіў,
Я свое ботэнькі потоптаў,
Покуль зверіну ўсю ўлапаў.

Так моцна трэба трымаць паланянку, якая цяжка дасталася роду.

Вось як уяўляюць сабе пінскія песьні выкраданне дзяўчыны. Яны даюць магчымасць прасачыць зборы ў дарогу, самы працэс барацьбы і яе заканчэнне і апавядаюць аб усім гэтым працэсе ў жывых, яскравых фарбах. Гэта жыццёвасць перадачы былога культурнага мінулага сведчыць, што выкраданне аставіла глыбкія сляды ў светапоглядзе пінчука.

Разглядаючы вышэй пададзеныя факты з боку іх прыгоднасьці да этналагічных вывадаў, мы, перш за ўсё, звернем увагу на ўдзел усяго роду ў дабыванні дзяўчыны для аднаго са сваіх членаў.

Малады з'яўляецца правадыром свайго радавога войска. Гэтыя указанні на ўдзелусяго роду вельмі цікавыя. Больш таго, мы нават можам скласьці ўяўленне аб тым, у якім выглядзе песьні бачаць гэтую радавую дружыну.

Род уяўляе сабой асобнае цэлае, варожае ў стаўленні да роду маладой; у яго ёсць агульныя інтарэсы – перамагчы цесьця, здабыць дзяўчыну для аднаго са сваіх членаў, ён клапоціцца аб тым, каб на чужых людзях яму не было "сараму", нарэшце, ён мае аднаго агульнага прадстаўніка ў абліччы бацюхны маладога, па загаду якога ўвесь род збіраецца на вайну; бацюхна выпраўляе дружыну, клапоціцца аб ёй, хаця яго асабістага ўдзелу ў дружыне мы не заўважаем: ён дае магчымасць паказаць сваю адвагу малодшым членам роду. Маладому ў першы раз выпадае магчымасцьпаказаць сваю мужнасць, паказаць, што ён будзе дастойным прадстаўніком свайго роду.

Род маладой – бязспрэчна ставіцца варожа да роду маладога. Апошні трымаеца з маладой, як з паланянкай "звярынай". Абодва роды пасварваюцца паміж сабой:

Одсуньтэса совы,
Наленулы соколы,

гаворыць дружына маладога, выкупіўшы маладую.

Осілы, осілы нашу пролісаочку
То грыбы, то грыбышча
Боровые маслянішча

дакарае дружына маладой дружыну маладога.

Гэтая варожасць абодвух радоў прысутнічае і ў іншых песьнях і падтрымліваецца звычаямі.

Калі песьні гаворaць пра “род”, “радзіну”, то, зразумела, маецца на ўвазе ўся радня, сваякі. Усе яны і складаюць род, радню, як і разумее народ гэта слова ў цяперашні час. Выразнасьці ўяўлення аб строга арганізаваным родзе, як ён бачыцца навукоўцам, не існуе. Але прыведзеная тут савакупнасць дадзеных наўрад ці ўказвае на тое, што тут мы маем справу з аддаленымі перажыткамі радавога ладу. Гэта меркаванне тым больш верагодна, што большасць вясельных звычаяў, сама арганізацыя рытуалу, адносіцца, відаць, менавіта да гэтага перыяду развіцця грамадства (аб значэнні дружыны маладога і роду ў вясельных звычаяхглядзіце мой артыкул “Беларускае вяселле ў культурна-рэлігійных перажытках”).

## III.
## Продаж маладой. Яе брат.

Наступная стадыя развіцця шлюбных форм – менавіта купля-продаж дзяўчыны – у народных песьнях адлюстравалася значна слабей. Яны добра ведаюць аб выкупе, прапіванні маладой, але толькі ўпамінаюць аб звычаі, не даючы магчымасьці аднавіць увесь акт.

Прапівае дзяўчыну ўвесь род, значыць, увесь род удзельнічае ў яе прадажы, а род маладога – у купляннi. Апошні, знайшоўшы маладую ў каморы ў бацюхны, гаворыць:

Мы тэбэ выпросімо, мы тэбэ выважымо
Золотою вагою, повэзэмо з сабою.

Прыехалі “Ільвувцы” (ад слова Львів), сыплюць чырвонцы на лаўкі, каб толькі мацi прадала маладую:

Таргуй, моя матэнько, нэ бэры,
Лепша я ў тэбэ, як воны –

кажа дачка.

Але маці аддае яе: “наехалі тыя людзі, каб цябе ўзяці”. Прапівае ўвесь род, але галоўнае значэнне маюць бацькі: “Прапіў бацька, прапіла маці ад сябе работнічку”. Другая песьня гаворыць:

Да запыта дзівонька,
Шовком хустонька нашіта:
Запівав еі ўвесь род
Да ей батэнько наперуж (Булгакаўскі, 96, №2).

Сваты асабліва ўпрошваюць бацьку аддаць дзяўчыну. Зязюлька кавала, што дзяўчына сем гадоў замуж не пойдзе. Але гэта вызначылася не так:

Як прыйшла я з красок,
Аж мэнэ да запіваюць,
Мэд, віно на стул (стол) носяць,
І мого бацюхну просяць (Zieńkiewicz, 48)

Пагэтаму маладая больш скардзіцца на бацьку, маці мала вінаватая ў яе няшчасьці:

Не жаль же мне завзуленьку,
Шчо рано заковала,

але шкада ёй “на бацюхну”, што дзеўка ў яго “не вгуляла”, не шмат “украсавалася, але толькі павянчалася” (Bykowski, 16, № 23).

Прадажа і прапіванне маладой часта сустракаецца ў песьнях, але не паказвае нічога характэрнага.

Але цікава адзначыць ролю брата ў прадажы дзяўчыны. Вядома, што “брат”, г. зн. старэйшы дружка (родны брат ці бліжэйшы сваяк) ва ўсім вясельным звычаі мае вялікае значэнне як з боку маладога, так і маладой (у кожнага свой). Гэты “брат” разам са сватам, кіруе усім рытуалам . У звычаі, які сімвалізуе куплю-продаж маладой, “брат” маладога купляе яе ў “брата” маладой. Песьні таксама добра ведаюць аб гэтай прадажы сястры братам.

Брацейка-татарын, ён прадаў “косачку” за канчук, белы тварык за “шастак”, а родную сястру аддаў “так”, г. зн. дарэмна – кажа песьня.

Расплёў братко кэску
Да разлыў же мне слёзку,
Да по белому лыченьку,
По червоным нагрудпычку -

гаворыць другая песьня, маючы на ўвазе брата. Дзе падзеў брат “уплёты”, пытаецца песьня: ці кінуў ён іх на Дунай, ці падвязаў ён імі свае “ботанькі”; калі падвязаў імі свае ботанькі, - то “як ножанькай ступне”, - сваю сястрыцу ўспомніць. Вядома, брат будзе шкадаваць аб сваёй сястрычцы, але тады ўжо будзе позна.

Песьня перад пасадам запрашае брата сесьці на стулік і вучыцца "таргаваць" сястру.

Трэба заўважыць і тое, што ў пінскіх лірычных песьнях прысутнічае тая ж варожасць адносін паміж братам і сястрой: і там брат з'яўляецца то галоўным вінаватым няшчасьця дзяўчыны, аддаўшы яе за нялюбага, то ён перашкаджае сястры аб'яднацца з каханым[9].

Цікавасць песен да брата маладой тлумачыцца не толькі іх радством. І ў іншых вясельных рытуалах брат з'яўляецца распарадчыкам лёсу маладой, мае вялікае значэнне, як, напрыклад, у старажытных індусаў (Вс. Міллер, Нарысы арыйскай міфалогіі, 21-22), у паўднёвых славян (Юрыдычны Веснік, 1877, №1, 99) і інш. У Новазеландцаў і інш. меней культурных народаў, брат мае фактычную ўладу пры прадажы сястры нават і ў цяпрашні час. (Post, Studien zur Entwicklungsgeschichte des Familiensrechts, p.164). Паказаныя факты даюць магчымасць зрабіць тое заключэнне, што ўдзел брата маладой у вясельных звычаях і песьнях можа разглядацца, як аддалены перажытак той эпохі развіцця чалавечага грамадства, калі сваяцтва і старшынство ў родзе лічылас толькі па маці, г. зн. па жаночай лініі (так званы матрыярхат, род маці) і, такім чынам, тады брат маці меў права вырашаць лёс сваіх малодшых сваякоў, будучы прадстаўніком сям'і ці роду (М. Кавалеўскі, Першабытнае права, І, 136).

## IV.
## Развітанне маладой з роднай хатай.

Вышэй было сказана, што побач з астаткамі мінулага побыту ў пінскіх песнях адлюстраваліся матывы сучаснага жыцця. Нашым песьням вядомы і такія адносіны паміж маладымі, калі яны адзін аднаму "мілы" і "мілая".

Маладая нагадвае маладому – "не заляцайся" другой, "не забувайся" на сваю дзеваньку. Але яму і цяжка забыцца: куды ні пойдзе, яна ў яго ў думках, за стол сядзе "край яе".

Вазьму за ручку – тэпленько
К сэрдцу прыгорну – мылэнько.

Яна ходзіць па ляску і "гукае" маладога: не "баўся", таму што ўжо усё прыгатавана да сустрэчы маладога. Яна выбягаеяму насустрач і з "цукрам у паперы", і з "вінным яблычкам у кішэні". Маладая просіць маладога прыехаць у панядзелак раненька. Але малады кажа, што ў яе вароты рыпучыя, бацюхна сварлівы. "Я вароты падцяшу, свайго бацюхну папрашу", адказвае маладая. Маладая дзеванька не праўду гаварыла: яна і замуж пайшла і маладога палюбіла. Маладая знаходзіць падтрымку і ўцеху ў маладым: "Нежаласлівы"

9. Глядзіце мой артыкул "Жаночая доля ў песьнях пінчукоў".

бацюхна выдае яе проці ночкі, ды і праваднічка не дае і дарожку не кажа і сам з ёю не ідзе. Дзе ёй маладой спаць: ці на вадзе, ці ў зялёнай дубраве, ці ў бацюхны ў каморы? Але яе суцяшае малады Цімох:

Не журыса мыя Прысенько,
Не будэш ночоваты на водзі,
Ні ў зяленэй дуброві,
Ні у баценькі ў каморы, -
Тай будэш ночоваты
Да на тэсэвэй кроваты,
Да на пуховых падушках,
Ды на шоўковых радзюшках.

Але калі нават маладая і ідзе да мілага, яна не ведае, як пірыме яе чужая сям'я, для якой яна ўсётакі будзе чужой. Тым цяжэй яе становішча ў асяродзі новай сям'і, калі яна трапіла туды ў якасьці паланянкі, ці як купленая. Яна з сумам, з цяжкім сэрцам, часам з папрокамі да сваіх, пакідае родную сям'ю і ідзе ў чужую. Мы разгледзім яе адносіны да адной і другой сям'і. І зноў такі, і тут, як і пасярод іншых матываў, адбіліся больш старажытныя рысы побыту побач з сучаснымі. Маладая то плача, развітваючыся са сваімі, пасылае ім папрокі за яе выдачу, яе прапіванне, то спакойна спяшаецца да маладога, збіраючы як мага больш падарункаў, выправу. Ужо, прыехаўшы ад вянца – яна не служка свайму бацьку, яна належыць іншаму, яна павінна слухацца цесьця. Дай, дзявіца, бацюхне вадзіцы "із далёкага калодзезя, із крыніцы", кажа песьня –

Уже я тебе, бацюхна, нэ слуга,
Уже моя вадыца дорога.

Пад высокім лесам брала дзявіца ягады, шмат іх набрала, але панесла іх прэч бацькавага двара да свякраткі:

Нэ естымэ мой бацюхно ягыдок,
Бо ўпустыў золоты кубок із ручок:
Да естымэ мое свекратко ягыдкі,
Бо оно ўзяло золоты кубак у ручкі.

Дзяўчына разлічылася са сваёй сям'ёй, але ёй цяжка пакінуць яе. Яна плача нават па начыненні, шкадуючы пакідаць знаёмыя рэчы:

Да нэ кур кудаче, пер'ячко скаче,
Молыдая дзевонька по кроснах плаче.

Але, зразумела, людзі даражэй за рэчы: маці заўсёды бліжэй да дачкі і таму дачка жахаецца пры думцы аб разлучэнні.

Моя матынька, моя родная,
Разлука мне с табою!

ускліцае ў адчаі маладая пры думцы аб разлучэнні з маці. Развітальныя словы поўныя адчаю: словазвароты матэнько, блізка-блізенька, укланю табе галоўку нізка-нізенька, коскамі зямліцу пакрыю, слёзанькамі ножачкі памыю, гавораць аб гэтым.

У іншай песьні дачка просіць маці палашчыць яе сёння, таму што заўтра ужо не прыйдзецца, заўтра ёю ужо завалодае Януська:

Моя матко родна!
Полілей да мене ціпер,
Бо вже завтра не лілецімеж,
Да ў себе да не мецімеж,
Оддасі боярам на рукі
Януську на векі (Zieńkiewicz, 116)

Адна песьня робіць вельмі прыгожае параўнанне маладой, якая развітваецца са сваёй маці – з бярозай, якая разлучаецца з дубраванькаю. Дубрава бараніла бярозку ад ветру і дажджу, так і дачка ў маці “важкай” (цяжкай) працы не рабіла, толькі скакала. Вось гэтая песьня:

Схілілася береза
Через гору ў доліну,
Склонілася Ганночка
Через скамлю мацёнцы:
- Дзякуй тобі дубрувунька,
За твае годованьейко!
Як я ў цібе бувала
Буйного вітру не чувала,
Друбного дшчу не відала.
Склонілася Ганночка
Через скамлю мацёнцы:
- Дзякуй тобі моя мацёнка,
За твое годованьейко!
Як я ў цібе бувала,
Важного дзіла не робіла.
Позно за водой не ходзіла,
Все ціхіе тонькі (скокі) водзіла.
Дзякуй тобі моя матонько
За твое годованьейко! (Zieńkiewicz)

Відавочна, пасьля адружання гэтыя парадкі зменяцца: давядзецца рабіць "важкую" працу, хадзіць позна ноччу за вадой і г. д.

Але і сама маці не хоча развітвацца з дачкой: не хачу тваіх нізкіх паклонаў, гаворыць яна, устань з возу ды ідзі да мяне. Тое ж самае маці гаворыць і ў іншай песьні. Дачка просіць падаць ёй руку, - ці не вернуць яе да хаты. Рада б я і дзве падаць, ды нельга вярнуць назад, кажа маці. У другой песьні амаль такімі ж словамі дачка развітваецца са сваім бацькай. Ёй хацелась бы яшчэ пабыць у бацюхны, "хораша пахадзіць", таму што ў бацюхны "усе горы да горы мне хадіці удаволі", а "ў свекракі ёй гуляці невульно".

З папрокам яна звяртаецца да маці, якая аддае яе на чужую старану, на цяжкую працу, адрываючы ад роднай хаты. Яна ўсё рабіла, што толькі трэба было для маці, а тая аддае яе. Чым я табе "даела" (надакучыла), што ты аддаеш мяне з хаты, пытаецца дачка.

Чі я тобе кошулі не прала,
Чі я тобе пастэльку не слала?
Прала тобе кошульку на моры,
Слала тобе пастэльку ў каморы.

У другой песьні яна выказвае тую ж думу:

Я ж тобі була женчік хорошій:
Я тобі жала, гроші не брала.

Зараз ты будзеш наймац жняцоў, плаціць ім грошы, сама будзеш сваё дабро з поля збіраць.

Але так ці па іншаму маладая павінна стаць членам іншай сям'і; у гэтай сям'і яна са сваім чалавекам будзе часткай, а затым, можа быць, і сама ўзначаліць яе. Пагэтаму ёй прыходзіцца думаць і аб сваім будучым дабрабыце, аб тым, каб ні ад каго не было "даганы" (папрокаў), як гаворыць адна лірычная песьня, затое, што яна прыйшла ў сям'ю без статка (выправы). Тут мы сустракаемся з цэлым шэрагам песень, малюючых выпраўленне маладой. Вельмі цікава, што маладую абдорвае племя, радніна:

Нашу дзевоньку да племмячко даруе;
Сам Бог сэдыць на покуці, лепшую долю готуе.

Іншая гаворыць нешта падобнае:

У нашей дзевонькі да вэлыка роднына,
Як скінэ по шляжечку, то будэ скотына.

Такім чынам род-племя удзельнічала ў абароне дзяўчыны ад маладога, далей яно прадавала яе яму і, нарэшце, калі змяніліся пабытовыя ўмовы,

выпраўляе яе ў чужую сям'ю. Клопат ляжыць не толькі на бацьках, але і на цэлым родзе-племені, якое, перш за ўсё, і ёсць валадар усіх сваіх членаў.

Але галоўны ўдзел у выправе здзяйсняе, відавочна, маці. Яна клапоціцца аб тым, каб забяспечыць падарункамі ўсю радню маладога, згодна са звычаем; маладая не клапоціцца пра тое, што не хопіць падарункаў для ўсіх: у яе ёсць маці, яна і здабудзе, яна і дастане "калі не стане". Маці добра прала, звонка ткала, беленька бяліла тканіну на падарункі, яна не караціла кросны "дзіцяці наравіла" і раздае доўгія кавалкі тканіны. Яшчэ больш маці турбуецца пра тое, каб налажыць поўны "кубел[10]" для сваёй дачкі. "Лады матка, лады, усё ў кубел кладзі", гаворыць песьня, не астаўляй меншай дачцы, таму што тая яшчэ не "надбала", г. зн. яшчэ мала працавала на бацькавым двары. Бацька, у сваю чаргу, даруе дачцэ "чорную карову". Дачка не хоча ад яго "ні поля, ні загына[11], ні мяжы, ні разоры[12], ды хочу ж я карову, пуховыя падушкі, шаўковыя радзюжкі", гаворыць другая песьня. Маці ж яна астаўляе ўсю хатнюю гаспадарку – "новы двор і хлявец", а сабе жадае толькі "повен кубел адзення". Маладая ад'язджае з бацькавага падвор'я ноччу, яна просіць "светавую зараньку" ўзыйсьці раненька, засвяціць ясненька, пакуль яна не выедзе з бацькавага двара:

Покіль я выкоцю кублы із коморы,
Покіль я выведу корову із оборы,
На свекровы возы, что стояць прі дорозі.

Маладая з'яўляецца на падвор'і свёкра – "повен двор статку жане (скаціну гоніць), поўну клець дабра вязе, статочку ды рагатага, ад бацькі ды багатага, ад маці ды разумнай". Яе свёкар не прызнаў, ды "паняю" назваў.

Такім чынам збіраецца маладая ў чужую сям'ю. Апошнія матывы ўжо поўныя сучасным станам. Што ж яна сустракае ў новай сям'і?

# V.
# Маладая і сям'я маладога.

---

10. Кубел – пераноснае прыстасаванне для захоўвання рэчаў. Форма і памеры розная, як цыліндрычная, у выглядзе бочкі, так і прамавугльная (скрыня). Галоўнае абмежаванне – яго могуць пераносіць 1-2 чалавекі.
11. Загон – умоўная адзінка плошчы. Ён атрымліваецца пры аранні поля канём па кругу: туды адна баразна, назад другая. Загон бывае розным па велічыні, у залежнасьці ад умоў мясцовасьці. Калі мясцовасць нізкая і ёсць небяспека затаплення дажджавой вадой, то загоны робяцца мінімальнымі па шырыні у два-тры кругі аратага, г. зн. 4-6 баразён. Калі поле знаходзіцца па пагорку, то загон бывае, як правіла, шырэйшы. Даўжыня загона таксама заледыць ад мясцовых умоў і можа быць вельмі рознай, але, як правіла не даўжэй адлегласьці, якую добры конь можа прайсьці ў адзін канец без перадыху.
12. Разора - паглыбленне паміж загонамі. Яна атрымліваецца таму, што па гэтай лініі аранне ідзе ў процілеглых накірунках, спачатку ў адзін бок, а потым араты вяртаецца назад па гэтай жа лініі, а так як зямля адкідваецца направа ад аратага, то атрымліваецца паглыбленне. На мясьцінах, якія могуць падтапляцца, разоры робяцца глыбейшыя.

Ужо збіраючыся ў чужую сям’ю, маладая сядзіць “хмурэнька”:

А як же мні буты вэсэлой,
Калы мэнэ осіла чужіна,
Ўсе женішкова родына.

Абсела маладую чужына і нават яе знешні выгляд перамяніўся. Маці з цяжкасьцю пазнае яе. “Учора”, г. зн. пры маці, яна была ў вяночку, а сёння “ў серпаночку”, учора была “ў чырвонаму, а сёння ў зялёнаму”. Куды ты дзеванька хадзіла, пытаецца песьня, што галоўку “збяліла” (белы жаночы галаўны ўбор)? Яна хадзіла ў вішнёвы сад, на яе галоўку ўпала кветачка, “ды маю галоўку прыбрала”.

Не весела малюе песьня будучую сям’ю. Куды цябе бацька аддае, пытае песьня маладую, “ці ў туркі, ці ў татары, ці ў турэцкую зямлю, ці ў вялікую сям’ю”? І так малюецца яе становішча ў гэтай “турэцкай зямлі”:

Там зэмля крэмеліста,
Там сэм’я норовіста,
Твоего ходу пэрэхажіваць муць (пачнуць),
Твое дзіло пэрэлажваць муць.

Другая песьня цёмнымі фарбамі малюе свякруху, з якой маладой прыйдзецца мець справу больш за ўсё. Чужая маці без ветру вее, без сонца грэе, яна “без крыўданькі сварыць, няпраўданьку гаворыць”,

Як покорыць (ад слова карыць) словамі,
Обальесса слезамі.

Чужая маці чакала толькі працаўніцу ў гаспадарцы: “усю ночаньку не спала, там сабе рабатнічку даставала”.

Яна радуецца. Гэта новая працаўніца - “ў дом дамаваці (гаспадарыць), а ў поле жыта жаці” –

А ў дым дымовыночку,
А ў полі работнычку.

Галоўная годнасць маладой, каб яна была

І ручая, рабочая,
І да дела ахвочая (Zieńkiewicz 192)

У новай сям’і чакаюць працаўніка, на якога кожны хацеў бы перакінуць часьцінку сваіх абавязкаў. У бацькі ў яе былі “белыя” рукі, ды ці будуць яны белыя ў свёкра? Вось як будуць ёй загадваць у новай сям’і:

Уставай, нэвеста, ранэнько,
Да бэжі по водыцу хутэнько,
Да памый рученькі белэнько.

У свёкра “ўсюды роўненька, мне гуляць не вольненька”. Усе хваляць бацьку маладой, а свёкра не хваляць, “судзяць”. Але маладая даведалася аб гэтым ужо пасьля таго, як “пірагі памянялі, падарункі падавалі”, пасьля вянчаньня. Зараз ужо позна, няхай лепш не гавораць: “ майго сэрца не сушыце”.

У новай сям’і трэба залагоджваць свёкра і свякруху: свёкра ёй раюць называць бацькам; для свякрухі яна гатуе тонкі кужаль у падарунак. У новую сям’ю яна прыходзіць “з дарамі, ды з нізенькімі ўклонамі, ды з тонкімі кужалямі”.

Гэтымі дадзенымі абмяжоўваюцца нашы веды аб лёсе маладой у яе новай сям’і, якія ўтрымліваюцца ў нашых песьнях.

Гэтыя дадзеныя пароўнальна бедныя ў пароўнанні з тымі густымі фарбамі, якімі малюе сабе “вялікую” сям’ю пінская жанчына ў лірычных песьнях. Апошнія спыняюцца з вялікімі падрабязнасьцямі на розных баках горкага жыцця-быцця маладой жанчыны ў сям’і яе чалавека. Пра гэта мне ўжо даводзілася гаварыць у іншым месцы[13].

Мы разгледзелі ўсе песьні, якія маюць дачыненне да маладога і маладой і асоб, іх акружаючых. На гэтым не заканчваецца разнастайнасць матываў вясельнай лірыкі пінчукоў. Нам застаецца яшчэ разабрацца ў цэлым шэрагу песень, якія стаяць асобна ад папярэдніх: гэта песьні каравайныя; за імі ідуць песьні, які апавядаюць аб шлюбе чырвонага сонечка і яснага месяца.

## VI.
## Каравайныя песьні.

Маленькія каравайныя песьні, большай часткай чатырохрадкоўі, займаюцца апісаннем самаго караваю і варыянтаў яго прыгатавання, паясняюць тое, што робяць каравайшчыцы, - жанчыны, якія карыстаюцца вялікай павагай на працягу ўсёй сваёй працы і вяселля, нарочыта выбраныя для гэтага.

Маці збірае іх “па месяцу і па зорачках і яснаму сонейку”, гаворыць песьня. Да працы над караваем запрашаецца сам Бог:

Прібудзь, прібудзь
Сам Господзь до нас,
Да тэпер у нас вэсэльечко
Ў Божій час!..

13. Глядзіне згаданны мой артыкул: “Жаночая доля ў песнях Пінчукоў”.

Кудравая каравайніца печ мяце, “харашуха” папраўляе, “ёй Бог дапамагае”, апавядае песьня. Удзел божай сілы ў справе прыгатавання караваю распаўсюджваецца да таго, што

Сам Буг коровай месыць,
А Прэчістая светыць,
А янгол воду носыць,
Хрістос прыступае
Хусткаю накрывае.

Іншая песьня такім чынам прызывае Прачыстую:

Прэчістая мацы!
Ходы к нам до хаты,
Вошчечку топтаці,
Сьвечечок сукаці
Сейдом освеціці,
Коровай замесіці. (Zieńkiewicz, 74)

Прысутнасць божай сілы дастаткова гарманіруе з тым значэннем, якое прыдаецца караваю і апісанне самаго хлеба і эпітэты, якія яму надаюцца. Яго “гіблюць”(месяць) на лаўцы “залатымі пярсцёнкамі. Звычайны эпітэт караваю - ясны”, другі эпітет – “дзіўны”. Яго мажуць “дравіным” маслам (ад каровы, якая ацялілася першы раз), за якім бягуць “да новай клеці”, ці “да новага месца”. Каравай мае залатыя “веццi”:

Ды зелен явор на двары,
А коровай гібнуць на столі!
А ў явора веццяя зэлэнэе,
А ў коровая золотэе.

Адна песьня дае такое выдатнае апісанне самаго караваю:

Коло околыночку14 шішкі
По сэрэдыне - усе зэрночкі (зорачкі)
Звэрху – сыр і масло,
У сэрэдыне доля і шчасьцэ!

Гэта апісанне дапаўняецца іншым. Каравай пякуць на ліпавых лісцях:

Росьты, коровай, як ліпынька,
А шішечкі – як зэрночкі
А гальечко, як дуб’ечко!

14. Верагодна околыночка – круг, верхні круг хлеба, кля околыначкі – па акружнасьці.

Каравай “качаюць” (гатуюць) на срэбры, сажаюць (у печ) на золаце:

Короваю, мой раю,
С табою граю,
На сребры качаю,
На золоці сажаю (Булгакаўскі, р. 108)

Шышачкі, аб якіх спяваецца ў песьні – гэта зорачкі і розныя выявы із цеста па краю каравайнага хлеба. Часцей за ўсё робяцца выявы птушак: абавязкова певень, потым перапёлкі, потым кветкі і інш. У песьнях таксама гаворыцца пра гэта. Бацька збірае суседак збіваць каравай, каб каравай быў –

С кветкамі, з пэрэпелкамі,
З дорогімі да макувкамі (Zieńkiewicz 70)

Нарэшце, хлеб з якога гатуецца каравай таксама асаблівы. Гэта абавязкова пшаніца, пшаніца старая, добраякасная. “Годзі” (хопіць) табе сем гадоў у стагу стаяць, звяртаецца да пшаніцы песьня, настаў час каравай із цябе гатаваць –

Пшенічка друбна
На всё сподобна (прыгодная) (Zieńkiewicz 72)

Так гатуецца каравай і такі яго знешні выгляд.

Каравай падыходзіць, расьце незвычайна, яго рост з’ява таксама выдатная. Песьня параўноўвае яго рост: “як хмель на тычыне, а пшаніца на ніве”. Другая песьня пачынаецца такім жа параўнаннем, але затым гаворыцца:

Росты, коровай, росты,
Да на гору дывыса,
Да за яблынь бэрыса,
А як будзе коровай росты,
То мы будзем коровай трасты.

Каравай, падыходзячы ў дзежцы, выбівае “дубовае донца”. П’яныя каравайніцы цеста пакралі “то ў мех, то ў кішэню – сваім дзеткам на вячэру”, але цеста “набрыняло” (паднялося) і адарвала кішэні.

Нават неадушаўлённыя рэчы выказваюць сваё задавальненне з нагоды пячэння караваю:

Пріпечек рогоче,
Піч коровая хоче.

Пасьля прыгатавання каравай нясуць у клець. Песні апісваюць і гэтае дзеянне. Нават пра каравайніцу, якая яго нясе, гаворыцца, што "на ёй світа шоўкам шыта сабалямі падбіта". Звычайна ў песні гаворыцца, што каравай пытаецца ў печы, ці ёсць сцежка да клеці?

Ты, коровай, не пытайса,
Да до клеці добірайса.

Другая песьня раіць караваю абаперціся на пірог і дабірацца да клеці. Згодна іншых песень каравай нясуць на жыта: "ды пастаўце каравай ды на бацькавым жыце". Адна песьня вельмі цікавая:

Ды зышоў місячык высоко,
Занэслы коровай далэко,
Да поставылы на жіці,
Суды нам Божэ спожіты!

Каравай параўноўваецца з месяцам, выносіцца на жыта, таму што ў ім ёсць сіла, садзейніючая радзючасьці поля.

Нарэшце, да каравайных песень адносіцца шэраг песень жартоўных. Каравайніцы марудзяць садзіць каравай у печ: ці яны мёду напіліся, ці ў моры патанулі? – пытае песьня, - ці ад сабакі не адбіліся, - дадаецца варыянцец. Каравайніцы напіліся так, што ім "да хаты не відаць", яны пагубілі свае сьвіткі, з п'яну разкралі ўсё цеста і г. д.

Вышэй я сабраў усе адценні песенных матываў, якія характэрызуюць як сам каравай, так і спосаб яго прыгатавання. Каравай, як звычаёвы хлеб, і сам каравайны звычай маюць вельмі вялікае значэнне не толькі ў Пінскім вяселлі, але і па ўсёй Беларусі, таксама ў маларусаў, на ўсёй прасторы Вялікарусіі; больш таго, аналагічныя звычаі з вясельным хлебам мы сустракаем амаль ва ўсіх славян, у народаў Заходняй Еўропы, у старажытных індусаў, грэкаў, рымлян і ў шмат якіх не арыйскіх народаў. Гэтая абставіна дае трывалае ўказанне на асаблівую значнасць звычаёвага вясельнага хлеба ў рэлігійным светапоглядзе разных народаў. Я буду мець выпадак гаварыць больш падрабязна аб гэтых звычаях у іншай працы, першыя главы якой я ўжо меў выпадак цытаваць (Беларускае вяселле ў культурна-рэлігійных перажытках) і да якой цікавячыяся могуць звярнуцца. Тут жа я абмяжуюсь толькі некалькамі заўвагамі, заснаванымі на вывучэнні пінскіх песень.

Пачнём з агульнай характарыстыкі караваю і каравайнага звычаю, якая бачыцца із вывучэння пазначаных вышэй песень.

Перш за ўсё, прыгатаванне караваю бачыцца справай асаблівага значэння: запрашаецца Божая магутнасць, якая ахвотна ўдзельнічае ў яго прыгатаванні. Каравай носіць эпітэты "дзіўны", "ясны", ён мае залатыя галінкі, яго качаюць залатымі пярсцёнкамі, садзяць на срэбры. Гэтыя рысы паказваюць на сувязь

нашага караваю з Богам. Далей ён знаходзіцца ў цеснай сувязі з расліннасьцю: яго “гальечка”, як “дуб’ечка”, ён расьце як ліпа, хмель, ці пшаніца на ніве.

Сувязь каравая з раслінасцю і асабліва з хлебнай вельмі значны паказчык. Таму хто знаёмы з народнай рэлігійнай сімволікай, будуць цалкам зразумелы словы прафесара Патэбні: “Да ліку сімвалаў сонечнага Бога трэба аднесьці і хлеб” (Аб значэнні некаторых звычаяў і вераванняў, р. 39). Багі ад якіх залежыць выспяванне збожжа, ці сам хбеб, які ўвасабляе ў сабе гэтых багоў, напоўнены вытворчай магутнасцю прыроды, ўяўляе Бога – вытворцу, апладняльніка. Сувязь каравая з дрэвам мае той жа асноўны сэнс. Дуб жа ва ўсіх народаў лічыцца дрэвам пераважна антрапаганічным: па ўяўленню грэкаў яго жалуды ўзбуджалі жаданне (De Gubernatis, La mythologie des plantes, t. II, p. 64 і наст). Маючы такую цесную сувязь з элементамі расліннай магутнасьці Бога, каравай і сам расьце не звычайна, з асаблівай моцнасцю, аб чым і сяваюць песьні..

Але ўсё, што ўтрымлівае божую магутнасць, можа, па народным уяўленням, перадаваць гэтую магутнасць іншым асобам і рэчам. Вось чаму каравай, сімвал бога-апладняльніка, нясуць, згодна песьні, на бацькава жыта, каб ён садзейнічаў яго расту; у сярэдзіне караваю “шчасьце і доля”, а пры яго ўнясенні – “Дай, Божа спажыці”, - гэта гаворыцца згодна з мяркаваннем, што яго божыя якасьці карысны і для чалавека.

Мы ўжо гаварылі пра сувязь нашага караваю з сонцам. “Хлеб, наогул,- гаворыць Патэбня, - і ў асаблівасьці каравай, набліжаецца да сонца” (idid, 51) – вывад зроблены на больш шматлікім матэрыяле і цалкам падцвярджаецца і нашымі песьнямі. Бог, сімвалам якога лічыцца наш каравай, - Бог даруючы ўсякі дастатак: радзючасць палеткаў, быдла і людзей; такога Бога дарэчы шанаваць на вяселлях, праз якія мужчына і жанчына аб’ядноўваюцца для нараджэння нашчадкаў. Каравай – сімвал Бога-апладняльніка, якога звычайна бачаць у нашым Ярыле. Прыгатаванне караваю – частка культу Ярылы, Дыёніса. На самай справе, з гэтым будзе не цяжка пагадзіцца, калі прыняць у разлік той аргіястычны настрой, які заўсёды суправаджае прыгатаване караваю: песьні і вяселле суправаджаюцца жартамі і песенкамі часцяком зусім не двухсэнсоўнага зместу (як гэта і было ў старыжытных культах), із цеста лепяцца фалласы, ці ж выявы людзей і жывёл ў недазваляльных паставах; такія выявы часам і зараз запякаюць на караваі, хаця гэта і пачынае выходзіць са звычаю.

## VII.
## Месяц і Сонейка.

Але ж функцыі Ярылы, ў народным уяўленні, цесна связаны з функцыямі сонца, апладняючага сваімі прамянямі зямлю, наогул з салярным Богам. Ярыла сам салярны Бог: то сонца, то месяц. Свяціла, з якім звязаны каравай, і ў пінскіх песьнях амаль выключна месяц.

Я нагадаю некалькі радкоў з ужо прыведзенай песьні:

Да й зышоў месячік высоко,
Занэслы коровай далэко.

Супастаўленне з месяцам – відавочна. Шышкі караваю – “зэрнацкі, зырачкі”, ці ж пасярэдзіне месяц, акружаны зорачкамі. Нагадаем, што і знешні выгляд каравая нагадвае месяц, акружаны зорачкамі: у сярэдзіне караваю лепіцца месяц, па краях – зоркі, а ўжо потым і іншыя выявы (Zieńkiewicz 68). Вось чаму месяцу ў песняў аддаецца галоўная роля, тады як сонца выкарыстоўваецца толькі для параўнанняў.

Мы сустракаем толькі такія параўнанні, як “сонейко грэе”, “сонейко грае”, каравайніц маці збірае “по ясному сонцу”. Сонца параўноўваецца з маладой, аб чым мы скажам ніжэй.

Зусім іншыя адносіны да вяселля месяца і зорак. Месяц свеціць вясельнаму картэжу. Песня прызывае яго пасьвяціць дружыне маладога, калі тая едзе здабываць маладую:

Свэты, свэты, ясен місяцу, над намы,
Ешчэ ехаты чотыры мілі борамі.

Але мала таго, месяц параўноўваецца з мужчынскімі дзейнічаючымі постацямі. Месяц – бацька маладой, яна –

У бацюхны ў коморы
Як у місяца ў колы.

Узышлі два месяцы, апавядае песьня, і абодва “ясьненькія”: а ў маладога два “дзедухны” і абодва “родненькія”, затым два браты маладога і абодва параўноўваюцца з месяцамі (Zieńkiewicz, 80). У другой, два браты маладога называюцца “рожкамі” месяца:

У місяца два рожкі,
У Януська два браткі (Zieńkiewicz, 86) –

адзін каня сядлае, другі павучае маладога, каб ён выбіраў маладую не ў золаце, а ў “розуме”.

Апошнія параўнанні месяца маюць значэнне толькі таму, што паказваюць, што з месяцам звязваўся мужчынскі пачатак. Асаблівую цікавасць маюць супастаўленні месяца і маладога. Шапка маладога “як зырочка ясна”. Маці прыбірала сына,

Місяцем аперезала,
І зыркою застягнула.

Цэлы шэраг песень, у якіх гаворыцца пра здабыванне маладой, пачынаецца параўнаннем:

Разхадыўся місячык по небу,
Да збіраючі зурочкі ў громаду:
Да засвецімо ўсе разам по небу.

Тут малады ўжо непасрэдна параўноўваецца з месяцам, зорачкі – дружына. Месяц – сам малады. Гэта параўнанне пастаянна падтрымліваецца:

Ішоў міесячік до зыркі,
Ішоў молойчік до дзіўкі (Bykowski p. II, №2)

Месячык па небу ходзіць, як Януська за стол заходзіць –

Ясён месячык по небу бродзіць,
Молоды Януськао за стул заходзіць (Zieńkiewicz, 78)

Асабліва цівае наступнае параўнанне:

Ішла тэшченька зарею,
А зяць місяцем за ею (Bykowski, 22)

Такім чынам, параўнанне месяца з маладым наўрад ці можа быць выпадковым.

Зорачкі, зорка, звычайна выяўляюцца ў жаночай постаці. Дзве сястры маладога – дзве зорачкі (Zieńkiewicz 192). “Тэшченько – моя зыронько”, - звяртаецца малады да сваёй цешчы. Маці маладой сумуе, што малады разбіў яе камору, разлучыў яе з дачкой, але той суцяшае яе:

Не журыся, моя матэнько,
Я назад к вам іду,
З святою зорою,
Із сваею жоною;
А моя жіночка,
Як у небі зырочка (Bykowski, 19)

Падобнае параўнанне знаходзім яшчэ ў адной песьні:

Убірайся, дзевонько,
З хаты да мэтэлкою,
А з двора пэрэпэлкою,
За ворота зыркою.

Як відаць із прыведзеных намі ўрыўкаў, зоркі, зорачкі ў пінскіх песьнях выяўляюцца ў жаночай постаці, пры гэтым не аднойчы, яны прама атаясамляюцца з маладой.

Не менш цікавыя песьні, якія адносяцца да сонца. Калі месяц выяўляецца ў мужчынскай постаці наогул і ў постаці маладога ў асобных выпадках, то шмат знаходзім указанняў і на тое, што песьні атаясамляюць сонца з жаночай постаццю, з маладой.

Сонэйко колесом на гору ідэ.
Да дзеванька до венчання едэ.

Іншая песьня характэрызуе маладую так: у яе

Із рукавіц ветрець віе,
Із лыченька снцэ гріе,
Умна да розумна,
Хороша да богата (Bykowski 107, № 40).

Твар маладой сонца. У іншым месцы маладая ўпадабляецца сонцу так:

Погледзі, матынько, в океңце,
Уже твое дзіцятко як сонце (Zieńkiewicz, 64)

Атаясамленне маладой з сонцам, бязспрэчна, паўплывала на сувязь маладой з “золатам”, часта замяняючым у народных песьнях само сонца. Золата “зазьвінело ў шкатулкі”, калі маладая заплакала (Zieńkiewicz, 66), яна мяце сенцы “золотою мэтэлкою” (idid. 60); прыехаўшы ад вянца маладая рассыпае золата (Булгакаўскі, 98, № 7 і інш.); маладая вельмі часта параўноўваецца з “золотым кубком” (Zieńkiewicz, 50).

Параўнанні, атаясамленне маладога з месяцам, маладой то з зоркай, то з сонцам, не адно толькі паэтычнае параўнанне, але мае больш глыбокі сэнс. Народная паэзія, як сучасных (рускіх, літоўцаў, немцаў, італьянцаў і інш.), так і старажытных (індусы, грэкі, рымляне і інш.) народаў, дае магчымасць заключыць, што ў народным светапоглядзе існавала уяўленне аб адружанні нябесных сьвяціл, пры гэтым месяц часьцей за ўсё ўяўляецца чалавекам, сонца і зоркі – жонкай, але ў некаторых народаў (напр. грэкі) наадварот. Гэта ўяўленне ляжыць у аснове народнай міфалогіі. Каб растлумачыць сабе паходжанне падобнага веравання, трэба звярнуць увагу на тое, што ўсякая першабытная рэлігія ў сваёй аснове мае абагаўленне вытворчай сілы прыроды, скарыўшае ўпершыню свядомасць першабытнага чалавека і прымусіўшае шанаваць сябе. Гэта шанаванне праявілася массай розных спосабаў: праз шанаванне расліннасьці, вады, агню, жывёл, ў непасрэбным выглядзе ці ўвасобленых у выглядзе асобнага Бога. Але і разнастайныя рэчы на зямлі: жывёлы, воды, перамена пор года і г. д. лічыліся чалавекам таксама праяўленнямі вытворчай магутнасьці прыроды. Каб растлумачыць сабе паходжанне ўсяго, што бачыў

навокал, чалавек па аналогіі са сваім жыццём, жыццём жывёл, якія ад зносін самца і самкі нараджалі нашчадкаў, лічыў, што і вышэйшыя істоты: месяц і сонца, неба і зямля, уступаючы ў шлюбныя адносіны паміж сабой, утвараюць усе навакольныя рэчы. Вось чаму і зямля называецца маці не толькі ў славян, але і ў індусаў, грэкаў, рымлян, германцаў, галлаў і інш., а неба з'яўляецца яе чалавекам-апладняльнікам; сродак аплпднення – у славянскай міфалогіі дождж. Такім чынам, першабытная рэлігія ведае дзве вышэйшыя божыя пары: месяц і сонца, неба і зямля.

Гэтым і тлумачыцца адлюстраванне ў вясельнай паэзіі пінчукоў матываў аб месяцы – маладым і сонцы – маладой. Гэта адлюстраванне, праўда, не вельмі выразнае, але ўсётакі дастатковае для таго, каб суаднесьці яго з вядомымі міфалагічнымі ўяўленнямі больш старажытных рэлігій.

Звяртаючыся ў заключэнні да тэмы дадзеных, якія можна здабыць із паказанага агляду матываў пінскай вясельнай паэзіі, я лічу патрэбным нагадаць агульныя вывады.

Нашы песьні паказваюць матывы культурна-гістарычнага і міфалагічнага характару; побач з тым і другім мы сустракаемся з замалёўкамі штодзённага жыцця ўжо навейшага часу.

Да матываў гісторыка-культурнага характару адносяцца: 1) песьні аб удзеле роду у адружанні сваіх маладых сучленаў, 2) песьні ад здабыванні і куплянні маладой, аб удзеле яе брата.

Пасярод міфалагічных матываў значнае месца займаюць перажыткі шанаваня вялікай радзючай (вытворчай) магутнасьці прыроды; гэта шанаванне выказваецца ў шанаванні хлеба і хлебных песьнях і ў песьнях аб адружанні месяца і сонца.

Гэтымі вывадамі вызначаецца значэнне пінскіх вясельных песень, як этналагічнага матэрыялу.